**Адзел Польскай Коаевай Касы** гэтымі днямі прыбыу у Менск. Каса хутка пачве функцыянаваць. На чале касы стаіць б. дэпутат сойма п. Домброускі.

**Дровы** на адрэс магістрату пачалі прыбываць з ваколічных станцыяу. Трэцьцяга дня прыбыло 24 вагоны дроу.

**Мерзлая бульба** мае прыбыць з Познані у ліку болей 10 вагонау. Часьць бульбы будзе перададзена бравaром і крахмальням.

У б. Цэнтральным рабочым копэратыве прад:ецца мерзлая бульба па 10 руб. пуд.

**Рэквізыцыя** мебэлі робіцца апошнімі днямі прадстаунікамі магістрату і ваенай уладай. Рэквізуюцца сталы, крэслы, ложкі, шафы, дываны і іншые нарэквізаваные рэчы выдаюцца квітанцыі.

Рэквізаваные рэчы, подлуг слоу рэквізытарау маюць быць зьвернямы уласьнікам праз 2 тыдні.

## Допісы.

**Радашкоуская і Хацончыцкая воласьці.** Вілейскага павету. Дзеля адчыненьня беларускай школы у нашай ваколіцы, трэба каб паліцыя склікала сход сялян. А калі сход ухваліць, што беларуская школа патрэбна, дык ад настауніка вымагаецца і рэкамэндацыя таго пана, каторы жыве у той ваколіцы і добра знае настауніка. На гэта скардуюцца глауным чынам настаунікі Хаценчыцкай воласьці.

Аб плебісцыту гавораць і у нас. Сяляне ня ведаюць, як быць і чакаюць „вучоных людзей“, каб запытацца у іх, як рабіць.

Робіцца у нашай ваколіцы перапіс насяленьня, маетнасьці, жывелы, зямлі і г. д. Перапісчыкі кажуць, што гэта робіцца нібы-то для нарэзу зямлі і дзеле гэтага трэба, каб сяляне галасавалі за палякау. У сьпісках перапісчыкі пішуць, што хочуць.

Б. Г.

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*



Друкарня Інвалідау. Менск.